ВЭРНЭР ЁГЭР

# ТЭАЛЁГІЯ ГРЭЦКІХ ДУМАНЬНІКАЎ

У перакладзе Яна Пятроўскага



Acknowledgement
Rev. Dr. John Piotrowski, in the name of the publisher, wishes to thank The Oxford University Press, Oxford, England, for permission to print in Byelorussian translation "The Theology of the Greek Thinkers", Chapter 1 (pp. 1-17) from *Theology of the Early Greek Philosophers: The Gifford Lectures 1936* by Werner Jaeger (1947).

Published by
Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.





1980


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## СЛОВА АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

Перакладзены з ангельскае мовы матэрыял п. т. "Тэалёгія грэцкіх думаньнікаў", становіць першы зь дзесяці разьдзелаў, якія ўвайшлі ў цэласьць кнігі п.т. "Тэалёгія раньніх грэцкіх думаньнікаў". +/

Пераклад гэты зьяўляецца да пэўнае ступені адхіленьнем ад мае працы, прысьвечанай вывучэньню спадчыны вялікага Плятона; але адхіленьне гэтае апраўдваецца фактам, што пададзены тут матэрыял, можа служыць дапаўненьнем для лепшага разуменьня тэалягічнае думкі раньніх грэцкіх думаньнікаў, якая пазьней, у бегу гістарычным, станецца сваім працягам, які паступова пачне зьіначвацца ў хформу філязафічнага багацьця ў сфэры сьветапагляду чалавека. З другога боку, ня будзе гэта не карысным, каб гэтую ў нас новасьць прадлажыць тым, каторыя могуць праявіць да пэўнае ступені зацікаўленасьць да самое думкі як і да тэхнікі выражэньня яе.

Для адцяжэньня награмаджанага матэрыялу, часова я абмінуў бадай-што ўсе зноскі ў тэксьце, зь якога пераклад выконваўся, уводзячы адначасна новыя з мэтаю спраўнага чытаньня і глыбейшага ўгляду ў зьмест. Для тых, аднак, з нашых чытачоў, каторыя хацелі-б запазнацца з цэласьцю прадмету, падаецца пры гэтым поўны назоў працы ў ангельскай мове. +/

Ян Пятроўскі

Ґэйнсвільл, Флярыда
23 ліпеня 1973 г.

+/ "The Theology of The Greek Philosophers", The Gifford Lectures, 1936, by Werner Jaeger. Translated for The Gifford Lectures, from the German manuscript by Edaward S. Robinson, Oxford at the Clarendon Press, 1964.



## ТЭАЛЁГІЯ ГРЭЦКІХ ДУМАНЬНІКАЎ

Мэта Лекцыяў Ґіффорда была вырашанаю аднойчы і на прышласьць іхным закладчыкам, які дакладна вызначыў, што яны павінны займацца тою групаю праблемаў, якую мы вырозьніваем імем натуральнае тэалёгіі. З гэтае прычыны бальшыня прэлеґэнтаў была філёзафамі або тэалёгамі. Калі я, як філялёг у прадмеце клясыкі і студэнт гуманітарных навукаў, маю якую-небудзь клясыфікацыю для ўкладу майго ўласнага высілку на гэтым полі разам зь іхным, дык толькі з тае прычыны, што пакрываецца гэта з далейшым абумоўленьнем Лёрда Ґіффорда ў тым сэнсе, што лекцыі могуць мець на ўвазе і гісторыю гэтых праблемаў.

Годны нашае пашаны працяг традыцыі зь якім гісторыя гэтая лучыцца, пакрывае прамежжа двух з паловаю тысячалецьцяў. Ягоная вартасьць бяз сумліву зьяўляецца чыста антыкварнаю. Філязафічная думка значна бліжэй і непарушна вяжацца зь ягонаю гісторыяю, чымся адумысныя галіны навукаў сваімі выказваньнямі. Магчыма нехта можа сказаць, што суадносіны паміж мадэрнаю і антычнаю філязофіяю зьяўляюцца болей параўнальнымі ў гэтым дачыненьні паміж працамі паэтаў нашага часу і вялікімі клясычнымі паэмамі мінуўшчыны. Бо тут зноў маем дачыненьне зь несьмяротнасьцю мінулае велічы, зь якое новы твор чэрпае для сябе жыцьцёвы подых.

Кажны раз, калі мы гаворым пра пачаткі эўрапэйскае філязофіі, мы маем на ўвазе грэкаў; і кажную спробу высьледзіць першапачаткі натуральнае ці філязафічнае тэалёгіі, мы мусім гэтаксама пачынаць зь іх. Ідэя натуральнае тэалёгіі ўвайшла ў наш сьвет у выніку працы, якая з тае сівое пары сталася клясычнаю для хрысьціянскага Захаду, і ёю ёсьць - De civitate Dei Сьв. Аўґустына. Пасьля заатакаваньня ў сваіх першых пяці кнігах веры ў паганскіх багоў, як ілюзыі, у шостай кнізе, ідучы па гэтай лініі разважаньня, ён шырака паясьняе хрысьціянскую дактрыну Аднаго Бога і дэманструе яе праз суадносьць з найглыбейшым углядам у грэцкую філязофію. Гэты пагляд хрысьціянскае тэалёгіі, як пацьвярджаючы і вырозьніваючы праўды перад-хрысьціянскае думкі, вельмі добра адлюстроўвае пазытыўную старану суадносінаў паміж новаю рэлігіяю і паган-

скаю старажытнасьцю. Цяперака для Сьв. Аўґустына, як і для кажнага тыпічнага нэоплятоніка ягонага стагодзьдзя, адзіным найвышэйшым прадстаўніком грэцкае філязофіі быў Плятон; іншыя думаньнікі былі толькі адно меншымі хвігурамі навакол Плятонавага магутнага монумэнту. У часе сярэднявечча гэтая, надаючая тон пазыцыя Плятона, мала-памалу была пераходлена Арыстотэлесам, і толькі ад часу Рэнэсансу, Плятон зноў стаўся паважным спаборнікам. Але на працягу ўсяго гэтага пэрыяду грэцкая філязофія – будзе яна рэпрэзэнтавацца Плятонам ці Арыстотэлесам – разам з паступова ўзрастаючаю ў сваім абыйме грэцкаю навукаю ў лацінскім перакладзе, была ўсім тым, што́ асталося з грэцкае культуры на Захадзе ў часе, калі веда грэцкае мовы шчэзла ў працэсе агульнага культурнага заняпаду. І калі працяг старажытнае грэцкае традыцыі ніколі ня быў зусім спынены ў Эўропе, дык гэта толькі з прычыны факту, што грэцкая філязофія падтрымлівала яго пры жыцьці. Але гэта ня было-б магчымым, калі-б гэтая самая філязофія, – theologia naturalis, – ня служыла як аснова для theologia supernaturalis хрысьціянства.

Першапачаткава, аднак-жа, канцэпцыя натуральнае тэалёгіі ня ўзьнікла як апазыцыя да супэрнатуральнае тэалёгіі, ідэі, якая ня была ведамаю старажытнаму сьвету. Калі мы хочам зразумець якое значэньне мела натуральная тэалёгія для тых, каторыя першыя агортвалі гэтую ідэю, мы мусім уявіць сабе яе разьвіцьцёвае павязаньне. Канцэпцыя натуральнае тэалёгіі, як сам Сьв. Аўґустын сьцьвярджае, была адною, якую ён узяў з Antiquitates rerum humanarum et divinarum М. Тэрэнцiюса Варро, плоднага раманскага пісьменьніка і вучонага энцыкляпэдыстага апошніх дзён Рэспублікі /116-27 п.н.э./. У другой частцы гэтае аграмаднае працы, з бескампрамісоваю пасьлядоўнасьцю і ўдырваючаю антыкварнаю эрудыцыяю, якая была затытуляванаю Antiquitates rerum divinarum, Варро пабудаваў тэорыю раманскіх багоў. Паводля Сьв. Аўґустына ён вырозьніваў тры рады тэалёгіі /genera theologiae/: мітычная, палітычная і натуральная. Мітычная тэалёгія распасьціралася на сьвет багоў, апісаных паэтамі; палітычная тэалёгія агортвала афіцыяльную дзяржаўную рэлігію і яе інстытуцыі ўключна з культамі; натуральная тэалёгія аставалася полем для філёзафаў – тэорыя натуры боскасьці як вы́яўленая ў натуры рэчаіснасьці. У поўным сэнсе гэтага слова, толькі натуральная тэалёгія можа быць названа рэлігіяю, бо, як Сьв. Аўґустын разумеў, рэальная рэлігія – праўдзівая рэлігія; мі-



тычная тэалёгія паэтаў выяўляе адно сьвет прыгожасьці веры. У часе, калі Варро жыў, дзяржаўная рэлігія ўжо хілілася ў бок свайго заняпаду; ён спадзяваўся ўратаваць яе дарогаю ўтрымліваньня пагляду, што рэлігія, як адна зь першых дзьвюх інстытуцыяў, чэрпае сваю ўласную абаснаванасьць з рук дзяржаўнае ўлады. Рэлігія для яго перад усім зьяўляецца адною з аснаўных хвормаў сацыяльнага жыцьця людзкае супольнасьці. Тэза гэтая зьяўляецца адною, супроць якое Сьв. Аўґустын рашуча выступаў. Ён уважаў Варровых дзяржаўных багоў ані крышку лепшымі або болей праўдзівымі, чымся нясслаўныя міты паэтаў. Ён добразычліва адносіцца да Варровае рэакцыйнае і – як яму выдаецца – фундамэнтальна хвальшывае пастаўы адносна суцэльнае праблемы дзяржаўнае рэлігіі, зьвяртаючы ўвагу, што Варро жыў у часе стухлае палітычнае свабоды, са старым парадкам, які развальваўся навакол яго і, што ягоны ўласны кансэрватызм змушаў яго бараніць рымскую нацыянальную рэлігію, як праўдзівую душу рымскае Рэспублікі. Але, калі ў гэтым назіраньні ёсьць нейкая доля праўды, тады дзеля гэтае самае прычыны старая рымская рэлігія, нават у ейнай найболей новай і моцна згэльленізаванай хворме, была няздольнаю стацца рэлігіяю Імпэрыі, якая гэтак многа розных народаў яднала ў сабе. Для Сьв. Аўґустына нясузгодным было, каб праўдзівая рэлігія мелася быць абмежаванаю да нейкага аднаго народу. У сваей сутнасьці Бог зьяўляецца сусьветным і чэсьць яму мусіць быць аддавана сусьветна. Гэта, запраўды, зьяўляецца аснаўною хрысьціянскаю дактрынаю; але якраз у сусьветнасьці грэцкае філязофіі Сьв. Аўґустын знаходзіць галоўную апору. Грэцкая філязофія зьяўляецца праўдзіваю натуральнаю тэалёгіяю, бо яна абасноўваецца на рацыянальным углядзе ў натуру ўласнае рэальнасьці; тэалёгіі міту і дзяржаўнасьці, наадварот, нічога ня маюць супольнага з натураю, але зьяўляюцца чыста штучным звычаем, суцэльна людзкім творам. Сьв. Аўґустын сам гаворыць, што гэтая апазыцыя і зьяўляецца якраз асноваю канцэпцыі натуральнае тэалёгіі. Ясна, што ён мае на ўвазе старую антытэзу φύσει і θέσει. Нават Сакратасавы вучань Антыстэнэс, якога ўплыў на філязофію стоікаў быў аграмадны, адрозьніваў аднаго φύσει θεός ад шматлікіх θέσει θεόι, між якімі ён уключаў багоў паэтаў ня меней як і тых з-пад знаку афіцыяльных культаў. Затым, з пункту гледжаньня натуральнае тэалёгіі, багі паэтаў, як і тыя дзяржаўныя, ставіліся напэўна на той самы ўзровень. Гэта і ёсьць той пункт, каторы Сьв. Аўґус-

тын зусім апраўдана высоўваў супроць Варро. Ясна, што Варровы трох-радовы распадзел рэлігіі меў на ўвазе ступіць вастрыё гэтае антытэзы з мэтаю ратаваньня дзяржаўных багоў ад агульнага вырачэньня θέσει θεόι і гэтым самым займець падставу ўтрымаць іхнае права нараджэньня. Сам распадзел, фактычна, быў кампрамісам. Мы ня ведаем хто першы ўвёў яго. У кажным выпадку мусіў быць нехта з гэльленістычных /праўдападобна стоіцкіх/ філёзафаў, бо Варро ўсё яшчэ ўжываў для сваіх трох genera theologiae грэцкія праметнікі, як: mythicon, politicon і physicon. Сьв. Аўгустын быў адным зь першых, каторы заступіў грэцкае слова physicos лацінскім natura - lis.

Слова "тэалёгія" зьяўляецца шмат старэйшым, чым ся паняцьце "натуральнае тэалёгіі" і Варроўскае трыхотоміі. Але тэалёгія зьяўляецца гэтаксама спэцыфічным творам грэцкага розуму. Факт гэты не заўсёды быў трапна зразуметым і заслугоўвае на асаблівую ўвагу, бо ён адносіцца ня толькі адно да слова, але нават яшчэ болей да рэчы, якую яно выражае. Тэалёгія зьяўляецца мэнтальнаю паставаю, якая ў характары сваім ёсьць грэцкаю, і мае нейкае дачыненьне да вялікае важнасьці, якую грэцкія думаньнікі прыдавалі паняцьцю лёґос, бо слова тэалёгія значыць зьбліжэньне да Бога або да багоў /theoi/ пры помачы лёґосу. Грэцкі Бог с'стаўся праблемаю. Зноў-жа, баржджэй будзе ляпей выследзіць разьвіцьцё абодвух - ідэі і слова ў гісторыі мовы, чымся пачынаць сыстэматычную дыскусыю на тэмат суадносінаў паміж тэалёгіяю і філязофіяю, бо падобныя агульныя дэфініцыі пераважна астаюцца важнымі ў абмежаваным пэрыядзе часу.

Словы: θεολόγος, θεολογία, θεολογεῖν, θεολογικός створанымі былі ў філязафічнай мове Плятона і Арыстотэлеса. Плятон быў першым. каторы ўжываў слова "тэалёгія" /θεολογία/, і ён праўдападобна быў стваральнікам ідэі. Ён увёў гэтае слова ў сваім дыялёгу Політэя, дзе хацеў устанавіць пэўныя філязафічныя нормы і крытэрыі для паэзыі. У ягоным ідэальным гаспадарсьцьве паэты павінны ўхіляцца ад памылак Гомэра,Гэзіёдоса і наагул у традыцыі паэзыі, і ў сваім выяўленьні багоў узьняцца на ўзровень філязафічнае праўды. Міталягічныя багі раньняе пары грэцкае паэзыі былі захварбованыя ўсякага роду людзкімі немачамі; і гэтакае выяўленьне багоў было ў нясузгоднасьці з Плятонаваю і Сакратасаваю рацыянальнаю канцэпцыяю Боскасьці. Затым, калі Плятон у Політэі кажа: τύποι περί θεολογιας "абрысаваньні тэалёгіі", твор гэтага новага слова бярэ свой выток з канфлікту паміж міталягічнаю традыцыяю і натуральным /рацыянальным/ падыходам да праблемы Бога. У абодвух творах, Політэі і Правох, Плятонавая філязофія, на гэтым найвышэйшым узроўні выяўляецца, як тэалёгія ў сваім сэнсе. З гэтае пары кажная сыстэма грэцкае філязофіі /за выняткам скептычнае/ уздымаецца да найвышэйшага пункту тэалёгіі, разрозьніваючы тут плятанічную, арыстотэлесаўскую, эпікурэйскую, стоіцкую, нэопітаґораўскую і нэоплятанічную тэалёгію.

Выражэньні, выплываючыя са слова θεολογία, зьяўляюцца асабліва частамі ў працах Арыстотэлеса і ягонае школы. У ягоных творах яны ўжываюцца з мэтаю зьвярненьня ўвагі на адумысны камплекс праблемаў і на адумысную інтэлектуальную паставу. Але ягонае ўжываньне, як усё паказвае на тое, вяжацца з унутранаю супярэчнасьцю. З аднае стараны, праз "тэалёгію" ён разумее тую фундамэнтальную галіну філязафічнае навукі, якую ён гэтаксама называе "першаю філязофіяю" або "навукаю першых прынцыпаў" - галіна, якая пазьней паміж ягонымі пасьлядоўнікамі будзе называцца "мэтафізыкаю". У гэтым сэнсе тэалёгія зьяўляецца ўльтыматыўнаю і вышэйшаю мэтаю ўсяго філязафічнага досьледу Быцьця. У гістарычным павязаньні, аднак-жа, ён ужывае гэты тэрмін для абазначэньня пэўных не-філёзафаў, як Гэзіёдоса і Фэрэкідэса, якіх ён востра супроцьставіць старым заправдным філёзафам або фізыкам. У гэтым сэнсе нехта можа сказаць пра стары пэрыёд, што філязофія пачынаецца там, дзе канчаецца тэалёгія. Мы можам знайсьці добры довад гэтае канцэпцыі ў першай кнізе Арыстотэлесавага згубленага дыялёгу Пра філязофію, высока цэненага ў старажытнасьці. Калі, напрыклад, ён дыскутуе гістарычную мінуўшчыну свае ўласнае навуковае філязофіі і ідзе аж гэтак далёка, каб узяць пад увагу рэлігійныя сыстэмы Ўсходу, я падазраю, што сваеасаблівы кругазор ягонае галіны дзейнасьці можа быць проста вытлумачаны, што людзі, якія апавядаліся за гэткі род мудрасьці /σοφία/, выклікалі ўражаньне ў яго, як людзі, што схіляюцца ў катэґорыю θεολογός у выпадку мною вышэй апісаным. Арыстотэлесавы вучань Эўдэмос з Родэсу, першы чалавек, які займаецца гісторыяю тэалёгіі, тасуе гэтую самую сыстэму клясыфікацыі. Гэтаксама і ён удзяляе адумысную ўвагу Ўсходнім рэлігійным сыстэмам, калі займаецца грэцкім укладам пісьменьнікаў у вершу і прозе пра тэоґонію - паходжаньне багоў. Але Эўдэмос ніколі ня ўключыў-бы ў рады тэ-

алёгаў свайго майстру Арыстотэлеса, стваральніка мэтафізыкі або тэалёгіі ў сэнсе філязафічным.

Але я склонным зьяўляюся адкінуць гэтую спасьцярожную супярэчнасьць, пакліквакочыся на пасус у дзьвянаццатай кнізе Мэтафізыкі, дзе Арыстотэлес, пасьля разгарненьня свае тэорыі адносна непарушнага парушыцеля сусьвету і парушыцеляў сфэраў, вяртаецца назад да антычнае рэлігійнае канцэпцыі багоў на небе. Ён спасьцерагае тут азнаку праўды; але рэлігія, ён верыць, распасьцірае гэтую праўдзівую азнаку міталягічна, дарогаю вынаходу антропоморфічных багоў. Гэтым тэалёгі рэпрэзэнтуюць людзкую думку ў яе прымітыўна міталягічнай фазе. У пазьнейшых гадох філязофія вяртаецца - на рацыянальнай плошчы - да праблемы, якую тэалёгі ў іхнай уласнай манеры ўжо заатакавалі. У гэтым часе родзіцца канцэпцыя дастаткова шырака агортваючая, каб узяць пад увагу дзьве гэтыя фазы: канцэпцыя тэалёгіі, якую мы знаходзім у Плятона і Арыстотэлеса.

Нават сягоньня хто-небудзь можа лёгка пачаць гісторыю філязафічнае тэалёгіі гэтым пэрыядам, гэтак як учыніў Эдвард Кэйрд сваею выдатнаю кнігаю Эвалюцыя тэалёгіі ў грэцкіх філёзафаў, прадукт ягоных уласных Ґіффордскіх Лекцыяў на Ґлясґоўскім Унівэрсытэце. Падобна ўчыніў Поўль Эльмэр Мор, пішучы з адным вокам на крыніцы хрысьціянскае тэалёгіі, пачынаючы свае доўгія сэрыі працаў п.т. Грэцкая традыцыя з томам, прысьвечаным пытаньню Рэлігія Плятона. І гэта праўдаю ёсьць, што ў Плятона мы знаходзім першы сыстэматычны падыход да гэтае праблемы. Але філязафічныя цьверджаньні адносна Боскасьці ўжо знаходзяцца ў перад-плятанічных думаньнікаў з самага пачатку. Гэта ўдырвае мяне, як вельмі важны мамэнт для суадносінаў паміж рэлігійнаю і філязафічнаю думкаю. Калі нехта мае на ўвазе пэўныя аспекты філязофіі гэльленістычнага і імпэрыяльнага пэрыядаў, ён ня будзе ўтрымліваць, што вартасьць і арыгінальнасьць рэлігійных ідэяў філязафічнае школы мусяць заўсёды быць проста прапорцыянальнымі да ступені яе сыстэматычных амбіцыяў. Я хацеў-бы, затым, высьледзіць у гэтых лекцыях найболей раньнія першапачаткі тэалёгіі ў грэцкай філязафічнай думцы, без замеру аналізы пазьнейшага ейнага разьвіцьця. Тое, што эпікурэйскі Вальлеіюс прабуе ўчыніць у першай кнізе Цыцэронавага De natura deorum і стоіцкі Люцыліюс Бальбус у другой кнізе гэтага самага дыялёгу, і Сьв. Аўґустын чыніць у De civitate Dei, дзе ён падобна пачынае гісторыю тэалёгіі з думаньнікаў і мілецкае школы - мы прадпрыймаем падобную натугу яшчэ раз на аснове асьцярожнае аналізы, ухіляючыся ад уплыву якое-небудзь філязафічнае доґмы. Мы павінны даведацца, што праблема Боскасьці займае значна большае месца ў спэкуляцыях натуральных філёзафаў раньняе пары, чымся мы гатовымі зьяўляемся прызнаць і, што яна стаецца фактычна большым аб'ектам іхнае ўвагі, чымся мы можам быць схільнымі спадзявацца ад Арыстотэлесавага вобразу разьвіцьця філязофіі ў першай кнізе ягонае Мэтафізыкі.

У пазьнейшай грэцкай філязофіі, якая болей сыстэматычна распрацаванаю ёсьць, тэалёгія гэтак выразна вырозьніваецца ад іншых галінаў думкі, чынячы гэтым лягчэйшым разгляд паасобнага прадмету. Але ў старой грэцкай думцы адсутнічае гэткае разрозьніваньне. Згэтуль выступае мэтодолягічная труднасьць; бо, калі запраўды мы спадзямося зразумець ізаляваныя ад сябе выражэньні Анаксімандэра або Гэраклітоса адносна Бога або "Боскасьці", мы заўсёды мусім браць іхную філязофію як цэласьць, як адзін непадзельны арганізм, ніколі не бяручы пад увагу складовыя часткі тэалёгіі ў адарваньні ад фізычнага або онтолягічнага фактару. З другое стараны,існуе выразная прычына чаму тутака немагчымым ёсьць распасьцерці перад намі ўвесь традыцыйны матэрыял і ўвайсьці ўва ўсе асаблівыя праблемы ў гісторыі раньняе грэцкае думкі. Дзелятаго, што падобныя спробы часта з акуратнасьцю прадпрыймаліся, мы павінны ўзяць пад увагу пэўнае дасьведчаньне ў галіне традыцыйнага досьледу. Мы павінны цяперака зьвярнуць нашую ўвагу ў напрамку аднае асаблівае стараны філязафічнае думкі, ня губячы з нашага зраковага абсягу цэласьці кантэксту. На гэтым шляху мы можам падыйсьці на значную блізкасьць да сьведчаньня, якое адносіцца да справы і мець дачыненьне з простаю інтэрпрэтацыяю. Бо тут, я думаю, знаходзіцца адзіная нашая нагода працярэбленьня новае сьцежкі там, дзе абшар ужо дакладна быў ісьледаваны.

Ад часу Арыстотэлеса сталася гэта ўжо сузгоднасьцю гісторыі філязофіі глядзець на гэтых думаньнікаў з пэрспэктывы, якая адцемлівае іхныя асягненьні як на навукоўцаў у галіне натуры. Арыстотэлес называе іх φυσικοί /у антычным сэнсе гэтага слова/, што у сваю чаргу прывяло мадэрных інтэрпрэтатараў дзевятнаццатага стагодзьдзя разумець іх як першых фізыкаў /у мадэрным сэнсе гэтага слова/. Піянерам натуральных ведаў можна лёгка даравадь, за тое, што яны зьмяшалі свае вялікія новыя інтуіцыі зь іншымі напалову міталягічнымі элемэнтамі: гэта было задачаю мадэрнага гістарычнага розуму разлу-

чыць гэтыя асаблівасьці адну ад другое і выдзяліць правільна слушныя навуковыя ідэі, якія могуць быць адтвораныя як спадзяваньне нашае ўласнае эмпірычнае навукі. Мадэрныя гісторыкі грэцкае філязофіі, што жылі ў пэрыядзе мэтафізычных сыстэмаў Гэґэля і іншых нямецкіх ідэалістых, пайменна, Цэльлера і ягонае школы, апіраліся пераважна на Плятона і Арыстотэлеса, і спэкулятыўных філёзафаў. Век пазытывізму, які сьледаваў, з гэткімі рэпрэзэнтантамі як Барнэт і Ґомпэрц, выражалі ў сваю чаргу эмпірычны і навуковы характар раньніх думаньнікаў. У сваім запале, каб давесьці мадэрнасьць перад-сакратыкаў, яны часта паменшвалі або нават і занядбоўвалі той аспэкт у першых філёзафаў, якім займаецца гэтая кніга, падыходзячы да іх з пэрспэктывы арыгінальнае натуральнае тэалёгіі. I гэта ёсьць тая пэрспэктыва, у якой самыя старажытныя бачылі гэтых філёзафаў. Калі Цыцэрон у сваей De natura deorum і Сьв Аўґустын у De civitate Dei бачаць фізыкаў ад Талеса да Анаксаґораса, як першых тэалёгаў, дык яны толькі паўтараюць тое, што яны знайшлі ў грэцкіх крыніцах.

Калі пазыцыя перад-сакратычнае думкі ў гісторыі грэцкае філязофіі мае быць перагледжанаю і з адпаведным выражэньнем узнаньня ў гэтым сэнсе, тады наш пагляд на ўсе суадносіны да грэцкае рэлігіі гэтаксама мусіць быць адпаведна датарнаваны. Тэалёгія раньніх філёзафаў выяўляе іх зусім як частку гісторыі грэцкае рэлігіі гэтак як і гісторыі філязофіі. Звычайныя гісторыкі рэлігіі насілу калі-небудзь паважна адносіліся да іхнае тэалёгіі ў гэтым аграмадным павязаньні, а гэта з тае, праўдападобна, прычыны, што галоўнае іхнае зацікаўленьне заўсёды болей было накіравана на культ боскасьцяў і на інстытуцыі рэлігійнага жыцьця, чымся на самыя ідэі. Вілямовітц, у ягонай пасьмертнай працы Der Glaube der Hellenen, аддаў для нас вялікую прыслугу дарогаю зламаньня забабону, вызначаючы грэцкім філёзафам месца ў рэлігійным разьвіцьці грэцкага народу. Але, як гэта і натуральным ёсьць, у працы гэткага аграмаднага засягу, ён ніколі фактычна не займаецца інтэрпрэтацыяю працаў філёзафаў у павязаньні іхнае думкі, як цэласьці, або імкнецца выявіць іхнае значэньне. Ягонае ўзнаньне для іх паважна ўроўнаважваецца пратэстанцкаю тэндэнцыяю, якая перашкаджае яму бачыць якую-небудзь праўдзівую рэлігію ані ў сьвеце інтэлекту, ані ў пабожнасьці культу, нават тады, калі гэта можа быць павучальным для нас,



як нешта важнае адносна таго, якое значэньне рэлігія мела для грэкаў. Затым, нашаю першаю мэтаю павінна быць даць рэлігіі філёзафаў – і ня толькі тым, перад-сакратычным думаньнікам – запраўды пазытыўнае месца ў нашым высілку зразумець як грэцкая рэлігія разьвівалася. I перад тым, як у вадпаведны спосаб учыніць гэта, мы павінны перш здабыць лепшы ўгляд у спэцывічную хворму, якую рэлігійная думка займела, калі ўваходзіла ў стадыю незалежнае філязафічнае спэкуляцыі. Вельмі лёгка пастанаўляць апрыёры, што вялічавыя ідэі, якія пэўнае стагодзьдзе людзкае гісторыі сфармавала адносна натуры Боскасьці, не адказваюць у сярэднім нашаму канцэпту адносна таго, чым рэлігія зьяўляецца і затым павінна быць пакінутая для філёзафаў і фізыкаў, каторыя, са свайго боку, ня вельмі шмат шманаюць пра іх, як пра тых, што не зьяўляюцца прадуктам чыстага розуму. Гэтая сытуацыя зьяўляецца толькі яшчэ адным прыкладам таго няшчаснага недахопу аб'еднаньня ў вадно суцэльнае ў людзкім жыцьці, што зьяўляецца характэрным для нашае мадэрнае цывілізацыі, і які мы імкнемся накінуць мінулым стагодзьдзям у нашай гістарычнай інтэрпрэтацыі іхнага прадукту. Паступаючы гэтак, мы часта пазбаўляем самых сябе магчымасьці ўгляду ў іхную фактычную натуру, а магчыма нават і добраслаўленьня, якое яны могуць распасьцерці над намі. Праўдзівае зразуменьне рэлігійнага інтэлектуалізму раньніх грэкаў зьяўляецца адным зь першых крокаў на шляху ў напрамку болей адпаведнае ацэны пазьнейшых гістарычных фазаў грэцкага розуму. Па-за гэтымі гераічнымі пачаткамі паступова разьвілася філязафічная трансфармацыя і ажыўленьне рэлігіі ў Плятонавай тэалёгіі, у сыстэмах Арыстотэлеса і ў гэльленістычных школах /стоікаў, эпікурэйцаў і г.д./, і перад усім у сыстэме тэалёгіі, якая была прадуктам канфлікту і ўзаемнае пэнэтрацыі грэцкае традыцыі з жыдоўскаю і іншых усходніх рэлігіяў, і напасьледак, з хрысьціянскаю вераю. Духовыя асновы гэтае вырастаючае гуманітарнае сусьветнае еднасьці былі: /I/ Рымская імпэрыя, як далёка падтрымлівала яна ідэю сусьветна-абсяжнага кіраўніцтва на прынцыпе права і справядлівасьці; /2/ грэцкая пайдэйя ў зразуменьні, як першапачатак унівэрсальнае гуманітарнае культуры; /3/ "унівэрсальная" /καθολική/ тэалёгія, як рэлігійная структура падобнае цывілізацыі. Філязафічная тэалёгія раньніх грэцкіх думаньнікаў, як Сьв. Аўґустын у сваей De civitate Dei ясна распазнаў і выразна

падаў да ведама, творыць выходны пункт гэтае ўнівэрсальнае тэалёгіі, якая паступова разьвіваецца.

Ужо адносна даўно я распачаў сваю працу ў галіне перад-сакратычнае філязофіі пад даглядам гэтакіх людзей, як Гэрманн Дільс і Вілямовітц і чуюся забавязаным у падыходзе да яе, як часткі гісторыі гэнія; але я гэтаксама правёў усенькае сваё жыцьцё, вывучаючы хрысьціянскую традыцыю, асабліва ў яе антычна грэцкай і рымскай фазе. З гэтае прычыны я астаюся пад глыбокім уражаньнем працягласьці фундамэнтальных хвормаў думкі і выражэньня, якія трыумфальна перакідаюць мост праз бяздоньне паміж гэтымі антытэтычнымі пэрыядамі людзкага розуму і злучыць іх у вадну унівэрсальную цывілізацыю.

Пісьменьнікі перад Арыстотэлесам спасьцераглі нейкае суадношаньне паміж пэўнымі ідэямі натуральных філёзафаў і тымі ранейшымі грэцкімі паэтамі. Каб быць пэўным адносна думкі, што Гомэр выперадж жае Талесавую тэорыю, што вада зьяўляецца аснаўным прынцыпам усіх рэчаў /думка, якая вельмі магчыма прыйшла з плятонічнае школы/, зьяўляецца тою да якое сам Арыстотэлес зусім паважна адносіўся з рэзэрвaю. Але што датычыцца праблемаў мэтафізыкі, выглядае, што і ён глядзеў на Гэзіёдаса, і яму падобных, як на папярэднікаў філязофіі. Ён называе іх πρῶτοι θεολογήσαντες, гэтаксама як у падобным дачыненьні ён гаворыць пра філёзафаў: πρῶτοι φιλοσοφήντες. Гэта значыць, што нават у чацьвертым стагодзьдзі слова θεολογεῖν магло быць ужывана зусім з добрым вынікам як θεολογεῖν у вадносеньні да філёзафаў. Але, калі Арыстотэлес ужывае слова πρῶτοι, яно вяжацца з паняцьцем нечага неразьвітага і прымітыўнага – за чым нешта мае сьледаваць, нешта вышэйшае і балей разьвітае. У іншым пасусе ён чыніць розьніцу паміж філёзафамі і старымі тэалёгамі тыпу Гэзіёдоса: галоўная рэч адносна філёзафаў, ён утрымлівае, ёсьць тая, што яны ў сваім поступе кіруюцца дакладнымі мэтадамі довадаў; тэалёгі, з другога боку, зьяўляюцца μυθικῶς σοφιζόμενοι. Гэта вельмі чараватае фармуляваньне; яно ўносіць з сабою дзьве рэчы: звычайны фактар і элемэнт розьніцы: тэалёгі ўпадабняюцца да філёзафаў у тым, што яны апавяшчаюць пэўныя дактрыны /σοφίζονται/; і ў адрозьненьні ад апошніх, яны ўсё-ж чыняць гэта "у містычнай хворме" /μυθικῶς/.

Наагул, папярэдняя характэрыстыка ня можа быць тасаваная да Гомэра; наадварот, яна паказвае дакладна на натуру розьніцы паміж Гэзіёдосавую Тэогоніяю і Гомэравую эпічнаю паэмаю. Толькі ў гэтых ізаляваных пасусах, якія пастарчаюць галоўнае апраўданьне для Арыстотэлесавае клясыфікацыі Гомэра, ставячы яго ў васяродзьдзе тэалёгаў, які гэтаксама выяўляецца ў гэтым сьвятле. Калі Іліяда спасылаецца на Океанос, як на першапачатак і крыніцу ўсіх багоў, дык думка гэтая ўводзіцца ў тэогонічную сфэру; але, калі на іншым месцы Гомэр апісвае гэта як першапачатак і крыніца ўсіх рэчаў – тады гэта выглядае ня шмат болей, як зразумелая дарога выражэньня мітічным спосабам фактычна параўнальнае канцэпцыі, што кажная рэч узьнікла з вады. Як рэгула, гераічныя лягэнды, якія твораць зьмест гомэраўскіх паэмаў, рэдка ствараюць нагоду для дактрынальнага затасаваньня. Але гэты выняткавы пасус можа запраўды належаць да аднае з пазьнейшых частак Іліяды. Калі так, мы можам зарызыкаваць выснаў, што інтэлектуальны пункт гледжаньня, які мы тут знаходзім, належыць да пазьнейшага пэрыяду разьвіцьця, чымся той, у якім гераічная паэма гомэраўскага тыпу асягнула свой зэніт. Натуральна, мы не павінны рабіць вострага разьмежаваньня паміж гераічнаю лягэндаю і мітамі багоў, бо абодва былі ў першую чаргу спробамі апісаньня таго, што займела месца і на абодва спачатку глядзелася як на праўдзівыя здарэньні. З другое стораны, лягэнды пра багоў, натуральна, давалі болей нагоды для σοφίζεσθαι – г. зн., для ўводзінаў арыгінальнага паясьненьня і гэткай пабудовы, якую мы знаходзім у Гэзіёдосавай Тэогоніі. Гэта і будзе дакладна тая сузгоднасьць традыцыйнае рэпрэзэнтацыі багоў з элемэнтам суб'ектыўнае інтэлектуальнае дзейнасьці, якая становіць тэалягічны характар Гэзіёдосавае працы.

У антычнай эпічнай творчасьці нават на думку ня прыходзіла, каб паэта называць ягоным уласным імем; ён проста быў ананімнаю прыладаю натхненьня з боку музаў, пашыраючы ўздоўж і папярок лягэнды старажытнага часу. Факт гэты абясьпечваў яму адпаведную пару для прооймія; і Гэзіёдос чыніць нагоду, каб адсланіць крышку з уласнага дазнаньня. Ён апавядае нам, як музы зьявіліся перад ім, Гэзіёдосам, калі ён даглядаў сваіх авечак ля падножжа гары Гэлікон, і як яны далі яму паліцу рапсода, абазначаючы гэтым ягоную місыю як песьняра. Тут новае выяўленьне суб'ектыву выражана ўжо зусім выразна. Але гэтае выяўленьне вяжацца з новаю адказнасьцю. Музы кажыць Гэзіёдосу:

Нам веданьне дана як праўду махлярствам зрабіць;
І гэта мы ведаем: выбрану праўду як жыць.

Ясным ёсьць, што Гэзіёдос чуецца тут, што ён пайшоў далей за старых паэтаў; бо ён высоўвае права гаварыць праўду адносна тых самых існаваньняў, адносна якіх насілу ці можна што-небудзь ведаць - адносна самых багоў. Ягоны твор мае на ўвазе выявіць паходжаньне ўсіх багоў, каторыя цяперака кіруюць на Олімпе; ён гэтаксама скажа нам як сьвет прыйшоў да быцьця, з усім ягоным сучасным парадкам. Затым ён мусіць запісаць усе адпаведныя міты і паказаць як яны ўсе датарнаванымі зьяўляюцца адносна сябе; магчыма ён выдзяліў некалькі вэрсыяў, якія ўдырваюць яго сваею памылковасьцю, або падаць новыя суадносіны, якіх традыцыя яшчэ ня выявіла.

Гэзіёдосавы аснаўны пастулят - гэта, што нават багі прыйшлі да быцьця. Гэта бяз сумліву была новая ідэя дадзенага часу. Думка адносна багоў была здагадам у лягэндах, хоць гэта магло выдавацца неўсуадношаным з штодзеннаю моваю, што багі вечнымі зьяўляюцца. Сам Зэус і шматлікія іншыя багі, якія цешыліся вялікаю пашанаю, мелі сваіх уласных бацькоў і юнацкія гады. Падобныя апавяданьні пераказваліся адносна Кроноса і Рэі, якія мелі дзяцей Урáноса і Ґаію. Далей у мінуўшчыну, як гэтыя апавяданьні, высьлед не пайшоў; ультыматыўны пачатак быў асягнуты і пытаньне болей не ставілася. Ніхто, хто прадпрыймаў спробу ўсе гэтыя апавяданьні пра боскае паходжаньне прывесьці ў нейкі парадак, як чыніў гэта Гэзіёдос, ня мог паўстрымацца, каб ня бачыць барджэй самых багоў у розным асьвятленьні. Ідэя сэрыі паступаючых па сабе прокрэацыяў, што зьяўляецца Гэзіёдосавым выразам праблемы, сталася прынцыпам, дзякуючы якому, усе асобы боскага сьвету што наймяней могуць быць падведзены пад адзін агульны мяноўнік.

Гэткім спосабам разьвілася сыстэматычная ґэнэалёґія багоў. Для Гэзіёдоса, каторы можа бачыць боскую асабовасьць нават у фізычных сілах, як неба і зямлі, нараджэньне зьяўляецца адзінаю хвормаю заіснаваньня. Калі мы ясна маем гэты факт на ўвазе, мы можам высьледзіць, па-за неабходнасьцю схэматызаваць усе заіснаваньні багоў, пачынаючы з самага пачатку сьвету, як тып прычынковага думаньня беспамылкова рацыянальнае пасьлядоўнасьці, якую яно выконвае, нават тады, калі яно прыймае хвормы міту. Гэта ня чыніць розьніцы, што ідэя прычыны і рэзультату ўсё яшчэ ня выявіліся; бо яны зьяўляюцца праўдзівымі σοφίζεσθαι, нават, калі і μυθικῶς.

Але ў Гэзіёдоса мы знаходзім болей, чымся пасыўнае падпарадкаваньне да схільнасьці мітычнае нарацыі: калі ён бярэцца расказваць пра старыя міты, ён мае насьпелыя праблемы на ўвазе, на якія, ён думае, ён мае магчымасьці адказаць. Довад гэтага спатыкаем усюды, ня толькі адно ў ягонай пабудове боскае ґэнэалёґіі. У ягонай іншай і ацалелай паэме пад т. Працы і дні, дзе ён выкладае сялянству сваю дактрыну адносна людзкае працы, яе неабходнасьць і праяе добраслаўленьні, ён уздымае пытаньне гараваньня і цяжкасьцяў у жыцьці і як яны зыйшлі на людзкасьць. Нават у асабліва не-міталягічным зьмесьце, які беспасярэдна ўводзіць нас у васяродзьдзе, у якім жыў паэта, ён уздымае спробу вырашыць філязафічнае пытаньне традыцыйных мітаў. Ён расказвае нам, як калісьці на пачатку людзі жылі ў раю, вольныя ад працы і натугі, і як крадзежа агня Промэтэусам і паклікаяньне да жыцьця Пандоры, першае жанчыны, наслалі гора і адказнасьць на сьвет. Гэта зьяўлаецца тэалёґіяю ў пэўным сэнсе гэтага слова, бо яна дае нам мітычнае паясьненьне пэўных маральных і сацыяльных фактаў, што можа быць параўнаным з біблійным апавяданьнем пра ўпадак чалавека. Гэзіёдосавая тэалёґія, затасаваная да практыкі штодзеннага жыцьця, павінна даць нам харобры ўгляд у ейную праўдзівую натуру. У дактрыне адносна Эрыс - зласьлівае багіні спрэчкі - якою ён пачынае свой твор - Працы і дні, як перасьцярога для свайго прагавітага і задзірыстага брата Пэрсэса, ён выразна пакліквaецца на свой уласны твор Тэоґонію, хоць чыніць гэта з мэтаю толькі карэкты свае ранейшае дактрыны: бо цяперака ён дае зласьлівай Эрыс з Тэоґоніі сястру багіні, добрую Эрыс, якая старшынствуе над кожным добрым спаборніцтвам на гэтым сьвеце. І якраз наяўнасьць гэтае пазьнейшае папраўкі ўдырваючым зьяўляецца довадам вымеру, да якое ступені Гэзіёдосавая пастава адносна міталёґіі знайшлася пад уплывам новых справаў, якія ён узьняў. Гэтыя пытаньні выступаюць на працягу ўсенькае Тэоґоніі; і засяг іхны даволі шырокі, каб уключыць усе праблемы, якія рэлігійнае сумленьне ягонага пэрыяду ставіць на парадку дня - ці будзе ён імкнуцца вытлумачыць наяўнасьць на сьвеце зла і гора, або апраўдваць панаваньне самых багоў. Бо нават і яны не зьяўляюцца недатыкальнымі перад крытыкаю, цяперака, калі людзкія ўладжаньні дзеля рэгуляваньня гаспадарства і су-

польнасьці пачынаюць паддавацца пад сумліў; і Гэзіёдосавая ґенэаляґічная канцэпцыя боскага ўраду адкрывае яму вочы на сьвет, як на поле змаганьня паміж большымі новымі багамі Сьвятла і цёмнымі капрыснымі, стыхійнымі сіламі на працягу стагодзьдзяў ад няпамятнае мінуўшчыны. Змаганьне гэтых дзьвюх групаў за супрэмацыю завяршылася перамогаю Зэуса; але цёмныя прадоньні зямлі ўсё яшчэ дышуць серкаю і смалою і катлуюцца смуродным подыхам пераможанага. У гэтым вобразным выяўленьні пакараньня бунтарных у сьвеце падзямельля, ня меней, чымся ў ягоных дакорных прамовах супроць несправядлівасьці чалавека тут на зямлі, як праступства супроць улады Зэуса і ягонае боскае справядлівасьці, Гэзіёдос вырысоўвае тэалягічную натуру свае думкі.

У тым самым часе, калі ў Тэоґоніі Гэзіёдос наведвае абшар людзкага жыцьця, ён ніколі ня губіць лучнасьці з натуральным парадкам сьвету. Тэоґонія вядзе назад да космоґоніі, калі паэта імкнецца да злучэньня пануючае дынастыі багоў з першабытнам Ураносам і Ґаіяй. Мы заўважылі ўжо, што Гэзіёдосавая думка ніколі ня выходзіць за межы неба і зямлі, дзьвюх асноваў спасьцярожнага сьвету; перад гэтым быў хаос. У Фізыцы Арыстотэлес гаворыць пра хаос, як пра пустую прастору /τόπος/; іншы пасус Тэоґоніі зьвяртае ўвагу, што гэта нічога іншага ня было, як прастора, што зіхацела паміж зямлёю і небам. Праўдападобна ідэя хаосу належыць да перадгістарычнае спадчыны Індо-эўрапэйскіх людзей; бо сьвет ёсьць злучаным з χάσκω /анг. "gape"/, і з гэтага самага кораня gap- нордыцкая міталёгія стварыла слова ginungagap для адданьня таго самага паняцьця зіхацістага прадоньня, якое існавала ад пачатку сьвету. Агульная ідэя хаосу, як нечага, у чым усе рэчы знаходзяцца дзіка памешаныя між сабою, успрынята памылкова; і антытэза паміж хаосам і космосам, якая супачывае на правільным паглядзе, зьяўляецца чыста мадэрным вынахадам. Магчыма, што ідэя тогу ва богу была падсьведама перанесена ў грэцкую канцэпцыю зь біблійнага апавяданьня аб стварэньні з кнігі Ґенэзіс. Для Гэзіёдоса, каторы думае катэґорыямі ґенэалёґіяў, нават Хаос прыйшоў у стан быцьця. Ён ня кажа, "На пачатку быў Хаос", але "Перш Хаос прыйшоў да быцьця, а тады Зямля", і г.д. І тут паўстае пытаньне, ці ня мусіў быць пачатак /ἀρχή/ гэтага прыходу - нечага, што ня сталася само сабою. Гэзіёдос пакідае гэтае пытаньне неадказаным; і запраўды, ён ніколі ня ідзе далей як выкліканьне са-



мога пытаньня. Бо, і ў сутнасьці рэчы, даць адказ, вымагала-б ад яго да пэўнае ступені выразіць лягічную пасьлядоўнасьць, якая ўсё яшчэ астаецца чужою для ягонае думкі. Але ягоная Тэоґонія зьяўляецца фактычнаю важнасьцю для прышлае філязофіі, якая пазьней ці раней запраўды станецца даволі пасьлядоўнаю, каб ставіць гэтакія пытаньні. І гэта стаецца ясным, што, калі падобнае пытаньне будзе ўзьнятым, яно ня можа ня ўплываць на пэўныя канцэпцыі, якія для рэлігіі прадстаўляюць сваю важнасьць і гэта зусім ня будзе роўназначным адсутнасьці рэлігійнае важнасьці ў яе ўласным праве. І якраз тою рэчаю, якая можа даканаць найболей, надаючы філязафічны зьмест міталягічнай зьменнасьці і пераносячы яе на рэлігійную важнасьць, зьяўляецца Гэзіюдосавая Тэоґонія, зь ейнаю тэаляґізацыяю багоў старых мітаў. Як мне выдаецца, даремным ёсьць дыскутаваць ці праўдзівая грэцкая рэлігія знаходзіцца ў васяродзьдзі міту ці культу. У кажным выпадку, у тэалягічным падыходзе да мітаў Гэзіёдос кіруецца шчырымі рэлігійнымі матывамі; і бяз сумліву, ён спасьцерагае нешта з рэлігійнае важнасьці ў касьмічным павязаньні, якое, як ён цьвердзіць, знайшоў у пэўных мітах. Факт гэты павінен быць трыманы на ўвазе ў кажнай спробе эвалюцыі тэалёгіі грэцкіх натуральных філёзафаў, як рэлігійны фэномэн, нават калі і шукаюць яны іншых шляхоў разьвязаньня праблемаў гэтае заімглёнае рэчаіснасьці міталягічнае тэалёгіі, і іншых дарог з мэтаю здаваленьня ўнутранае патрэбы, якая кіравала іх наперад.

Пасьля ўсяго, няма падставы, чаму-б мы ня мелі паўзірацца на Гэзіёдосавую Тэоґонію, як на адну падрыхтаваўчую пару філязофіі, якая неўзабаве мае надыйсьці. Сама гісторыя, дарогаю выяўленьня рашаючага ўплыву Гэзіёдосавых ідэяў, расьцярушыла ўсе сумлівы адносна закранутае справы. У ягоным паглядзе на сьвет існуюць пэўныя дэфінітыўныя пункты, што да якіх найбольшыя філёзафы ў сваеасаблівы спосаб зьвяртаюць увагу. Яны часта паклікваюцца на ягоную канцэпцыю Хаосу і пачатку ўсіх рэчаў, але гэтаксама і на суцэльнасьць космоґонічнае стараны Тэоґоніі. Калі закранутыя ідэі бяз сумліву пачатак свой выводзяць з дасьведчаньня, яны ўсё яшчэ могуць быць паддадзенымі да пэўнае ступені пад эмпірычную кантролю, або, у найгоршым выпадку, могуць быць знойдзенымі ў канфлікце з дасьведчаньнем; затым, рэчаю няўхільнаю ёсьць, што яны могуць стацца абе'ктам крытыцызму для кажнага таго, хто, як натуральны фі-

лёзаф, з наяўнасьцю сваіх пачуцьцяў, думае самастойна. Але нэґатыўны крытыцызм не зьяўляецца адзіным водгульлем, якое Гэзіёдос выклікае ў васяродзьдзі гэтых людзей, бо ў Тэоґоніі ёсьць шмат з таго, што зьяўляецца філязафічнаю важнасьцю для іх. Мы можам бачыць, напрыклад, шлях, на якім ягоная дзіўная канцэпцыя Эроса, як першага з багоў, пазьней разьвіваецца Пармэнідэсам і Эмпэдоклесам. Запраўды, гэтая ідэя сталася амаль безабмежаванаю плоднасьцю на працягу гісторыі філязофіі нават аж да тэорыяў дзевятнаццатага стагодзьдзя касьмічнае любові. Для Эмпэдоклеса, Любоў /або, як ён называе яе, Φιλία/, зьяўляецца дзеючаю прычынаю кажнае сувязі касьмічных сілаў. Функцыя гэтая звычайна была, перанятая ад Эроса, Гэзіёдоса. Ужо на самым пачатку ягонага апавяданьня адносна паходжаньня сьвету, паэта ўводзіць Эроса як аднаго з найстаршых і найболей магутных багоў, равесьнікаў Зямлі і Неба – першая пара, якая ягонаю моцаю лучыцца ў любоўную еднасьць. Пераказ пра Зямлю і Неба і іхнае жанімства быў адным з традыцыйных мітаў; і Гэзіёдос разважае зусім лягічна, калі ён чыніць выснаў, што Эрос мусіў быць гэтак старым богам як і яны, і з гэтае прычыны заслугоўвае на адно зь першых месцаў. Зьяднаньне Неба і Зямлі распачынае доўгую сэрыю нараджэньняў, што твораць галоўны зьмест Тэоґоніі і займае цэнтральнае месца Гэзіёдосавага тэалягічнага зацікаўленьня. Як можа ён паўстрымацца ад угляду ў крыніцу гэтага найболей цікавага здарэньня, якое зьвяло ўсе боскія пары разам і нават злучыла тэоґонію з космоґоніяю – праўдзівая прычына, дзякуючы якой, сьвет прыйшоў да быцьця? І як можа хто-небудзь, хто бярэ пад развагу гэтак аграмадны матэрыял і маральныя моцы, як боскія асобы, ня бачыць бога ў Эросе, які злучае ўсе рэчы?

Гісторыкі рэлігіі зьвяртаюць увагу, што Эросу быў прысьвечаны вельмі старадаўны культ у бэоцкіх Тэспіях ля падножжа гары Гэлікону, хоць мы не назіраем на іншых мясцох гэтага культу боскасьці ў ранейшых часох. Калі Гэзіёдос гэтаксама меў адумысныя асабістыя суадносіны да Музаў ягонае ўласнае зямлі, дык факт, што ён прыпісвае гэтакую вялікую ролю Эросу, можа быць зразуметы на плошчы натуральнага ўсуаднашаньня, як да бога ягонага блізкага суседзтва. Але гэтакае паясьненьне ўдырвае мяне, як мала прадуманае. Вельмі магчыма, што ўспомнуты культ мог спрычыніцца ў яго да мэдытацыі адносна гэтага бога; але гэта не зьяўляецца дастатковаю асновою, якую Эрос выконвае ў Тэоґоніі. Культ бога ў Тэспіях зьяўляецца толькі эквівалентам запладненьня стадаў і людзкіх жанімстваў; ён ня стаўся касьмічнаю сілаю аж да часу пакуль ён не займеў месца на чале запачаткоўваючае сэрыі, якая дае нараджэньне шырокаму сьвету і ў вапрычонасьці самым багом. У гэтай выапрычонасьці сілы, якая дае пачатак нараджэньню і стварае падваліны цэлае сэрыі, як боскае прычыны, Гэзіёдос кладзе дапушчэньне, падобнае, якое мы знаходзім у аналягічных стадыях тэалягічнае думкі ўва ўсіх часох, сярод усіх народаў. І гэта ёсьць якраз тым, чым кіруюцца гэбрайскія тэалёгі, калі яны ўжываюць фразу "І Бог сказаў". /Фраза, якая паўтараецца пры кажным новым творчым акце Яговы ў Майсеевым апавяданьні пра тварэньне/ і чыняць розьніцу адносна творчага Слова, Лёґос, абыходзячыся зь ім як з першабытным існаваньнем у самым сабе і ўмясцоўваючы яго на чало творчых актаў, якія зьяўляюцца ягоным працягам. Факт, што Эрос ужо атрымаў пашану ў кульце ня быў болей важным для Гэзіёдоса, чымся праблема Неба і Зямля або Кронос і Рэія былі гэтаксама агарнуты культам боскасьці. Галоўным пунктам тут ёсьць, што ўводзіны Эроса зьяўляюцца тыпічным для Гэзіёдосавага тэалягічнага думаньня. Зусім адасоблена ад натуральнах філёзафаў, пра якіх мы ўжо ўспаміналі, мы знойдзем, што гэтая мэтода мітычнага дапушчэньня стаецца асабліва важным мамэнтам высьненьня сьвету ў тэалягічнай космолёґіі пасьля-гэзіёдаўскіх часоў, дзе Гэзіёдосавы першабытны Эрос здабывае сільны ўплыў.

З другое стараны, аднак-жа, калі мы параўнаем грэцкае дапушчэньне ствараючага сьвет Эроса з тым Лёґосам з гэбрайскага апавяданьня пра стварэньне, мы можам заўважыць глыбака паложаную розьніцу ў пункце гледжаньня двух народаў. Лёґос зьяўляецца ўрэчаісьненьнем інтэлектуальнае свомасьці магутнасьці Бога стварыцеля, які знаходзіцца навонкі сьвету і прыводзіць гэты сьвет да быцьця сілаю ягонага ўласнага загаду. Грэцкія багі знаходзяцца ў васяродзьдзі сьвету; яны зыйшлі зь Неба на Зямлю – дзьве найбольшыя і найболей праслаўленыя часткі сусьвету; і яны паходзяць з магутнае сілы Эроса, які гэтаксама належыць да сьвету, як усё-выклікаючая першабытная сіла. Гэтым яны зьяўляліся-б ужо аб'ектам таго, што мы павінны былі-б назваць натуральным правам, нават тады, калі-б мы дапусьцілі, што розум Гэзіёдоса выяўляе нам гэтае права, як бога сярод багоў барждэй, чымся адзінага ўсё-кіруючага прын-

цыпу. Але ў гэзіёдаўскай канцэпцыі мы ўжо выкрылі зародак пошукаў таго адзінага натуральнага прынцыпу, які мы спатыкаем у пазьнейшых філёзафаў. Ягоны ўплыў станецца асабліва ясным у новых хвормах, якія гэзіёдаўскі Эрос прыймае ў Працах Пармэнідэса і Эмпэдоклеса. Калі пазьней Гэзіёдосавая думка ўступіць месца праўдзіваму філязафічнаму думаньню, Боскасьць станецца спасьцярожнаю ў васяродзьдзі сьвету – а не навонкі яго, як у жыдоўска-хрысьціянскай тэалёгіі, якая выводзіцца з кнігі Ґенэзіс. Гэзіёдос будзе тады болей уважацца за космоґоністага, чымся тэоґоністага, і боская натура будзе болей спасьцярожнаю ў тых сілах, якімі ўсе рэчы выклікаюцца да існаваньня. У гэтай філязофіі Эрос стаўся болей важнам, чымся ўсе багі, якіх, Гэзіёдос думае, ён, Эрос прывёў да быцьця. Багі зьяўляюцца часткаю міталягічнае традыцыі; і калі Гэзіёдосавая думка своеасабліва ўкарэньненая ў міт, дык гэта і будзе ўсё, што патрэбным ёсьць, каб учыніць іх рэчаіснымі для ягонае тэалёгіі. Сярод іншага, ён ніколі не займеў патрэбы, каб пранікнуць у натуру Боскасьці, як гэткае. Гэтае фундамэнтальнае пытаньне зьяўляецца адным, якое ня можа быць узьнятым да таго часу, пакуль усе Гэзіёдосавыя індывідуальныя боскія хвігуры і самыя міты стануцца праблематычнымі. І гэтакі стан рэчаў ня здарыцца да тае пары, пакуль чалавек ня прыйдзе да сьведамасьці, што ягоная адзіная крыніца пэўнасьці ў сфэры рэчаіснасьці знаходзіцца ў досьледзе і ў самастойным думаньні, абаснованым на дасьведчаньні. І хоць гэты пункт гледжаньня зусім розьніцца ад Гэзіёдосавага, я пераканаьы, што я паказаў, што ён не зьяўляецца абсалютна чужым для яго, але зьяўляецца блізка спалучаным зь ягоным тэалягічным паясьненьнем сьвету, які запраўды пастарчае абаснаваньне для ягоных уласных своеасаблівых праблемаў. Затым зусім натуральным зьяўляецца, што гэты новы спосаб думаньня не павінен быць гэтак фундамэнтальна абыякасным адносна праблемы Боскасьці, як гэта часта назіраем; наадварот, ён прыймае гэтую праблему, як адну творачую сутнасьць спадчыны папярэдняга пэрыяду, тады як у тым самым часе ён перайначваецца ў новую і агульную філязафічную хворму.

---



ЗНОСКІ

Бач. 3 ...<u>Лекцыяў</u>... Лекцыя / з лац. lectio – чытаньне/, І. адзінка школьных заняткаў, якая нармальна трывае 45 мінютаў; 2. публічнае чытаньне матэрыялу на дадзеную тэму; 3. публічнае выступленьне з дадзенае галіны навукі.

...<u>праблема</u> ... / з гр. πρόβλημα – прадкладзеная рэч, пытаньне/ – І. кажная рэч, якая прапануецца як пытаньне для разгляду, дыскусыі; скамплікаванае тэорэтычнае пытаньне, якое вымагае вырашэньня; трудная справа для разьвязкі.

...<u>тэалёгамі</u>... /з гр. θεολόγος, чалавек, які займаецца тэалёгіяю/, рэчазнаўца ў тэалёгіі або ў навуцы адносна Бога ці багоў.

...<u>тэалёгія</u>... /з гр. θεολογία ад θεός Бог і λόγος лёгос, слова, навука/, досьлед адносна багоў ці Бога або суадносінаў Бога да сьвету, чалавека і наадварот. Тэалёгія часта абумоўліваецца паглядам тае ці іншае рэлігіі, але можа выступаць і незалежна ад якога-небудзь веравызнаньня.

[τύποι περὶ θεολογίας – асновы тэалёгіі; фраза, узятая з "Політэі" /2, 379a/, дзе сам Плятон усебакова дыскутуе асновы тэалёгі. У беларускім перакладзе гучыць:

– На гэта адказаў /Сакратас/: Ты, Адэімантос і я, у дадзеным часе, не зьяўляемся паэтамі, але асновапаложнікамі гаспадарства. Цяпер-жа, да закладнікаў гаспадарства не належыць задача тварыць міты, але яны, /паэты/, павінны ведаць агульныя асновы, паводля якіх паэты апавядаць мусяць, і не адступацца, і межы, якіх яны трымацца маюць.

– Правільна, – сказаў ён, – але чым зьяўляюцца гэтыя асновы тэалёгіі, якія ты маеш на ўвазе?

– Нешта вось гэтакае, – адказаў я: – Бог заўсёды павінен быць выяўляны гэтакім, якім ён у запраўднасьці ёсьць, будзе гэта ў эпічнай паэзыі, у песьнях ці ў трагэдыі].

...<u>прэлеґэнт</u>... /лац. praelegens/, чалавек, які прадкладвае /чытае/ лекцыю, прэлекцыю.

...<u>была філёзафамі</u>... Філёзаф /гр. φιλόσοφος ад φιλέω люблю і σοφία мудрасьць/, І. чалавек, які любіць мудрасьць; 2. чалавек, які імкнецца да працы над сабою, да навукі, да мудрасьці; 3. мудры чалавек.

...<u>філялёг</u>... – /з гр. φιλόλογος, ад люблю і слова, навука/, І. чалавек, які любіць зай-

мацца словамі, моваю; 2. студэнт мовы і гісторыі; 3. вучоны чалавек; рэчазнаўца ў прадмеце мовы і гісторыі.

...студэнт... /з лац. studens, -entis, чалавек, ахвочы да навукі/, I. слухач вышэйшае навуковае інстытуцыі; 2. вучань сярэдняе школы; 3. асоба, вывучаючая дадзены навуковы прадмет; 4. чалавек ахвочы да навукі; 5. вучоны; 6. прафэсар.

...Кажны раз, калі мы гаворым... Падобную думку спатыкаем у Гэґэля. /Гл. Плятон, выбраныя дыялёгі - Сымпозыён, Іён у перакладзе Яна Пятроўскага, 1970, Злучаныя Штаты, б. 4/.

...клясыкі... - клясыка /з лац. classicus - першарадны, клясычны/, згэтуль - клясыцызм - напрамак у мастацтве і літаратуры ў заходняй Эўропе, які ў першую чаргу адносіцца да асягненьняў старажытных грэкаў /і рымлянаў/, якія ўважаюцца за норму і наўзор; тэрмін ужываецца гэтаксама ў вадносеньні і да іншых народаў.

...клясыфікацыю... клясыфікацыя /з лац. classis - распадзел і facere - чыніць/, акт распадзелу аб'ектаў, зьявішчаў, паняцьцяў... паводля дадзенага прынцыпу на што-раз меншыя адзелы /групы/ і пададдзелы. На падставе сыстэматычнага распадзелу кажны элемэнт дадзенае клясы належыць да нейкае групы і толькі да аднае.

...і гісторыю... Гісторыя /з гр. ἱστορία, пазнаньне, навука; I. у найболей агульным значэньні - кажны працэс разьвіцьця ў быцьці натуры або людзкае супольнасьці; 2. навука ў галіне гэтых працэсаў.

...гуманітарных... /з лац. humanitas, людзкасьць, чалавечнасьць/, людзкі, чалавечы; праяўленая любоў да чалавека; 2. гуманітарнасьцю адзначаны.

...працяг традыцыі..., традыцыя /з лац. traditio, пераказ/ваньне//, I. гістарычна вытвараныя вераваньні, абычаі, парадкі, асновы паступаваньня і вусна пераказаныя з пакаленьня ў пакаленьне; 2. народны пераказ.

Бач. 5. ...у натуру... , натура /з лац. natura/, I. суцэльнасьць арганічнага сьвету; 2. усё, што ня ўчынена або ня зьіначана чалавекам; 3. у філязофіі - сума прыкметаў дадзенага аб'екту або зьявішча; рэчаіснасьць.

...φύσει /ад φύσις - натура/, натураю, праз натуру, дзякуючы натуры; натуральна; згэтуль паняцьце натуральнае тэалёгіі. Слова θέσει ужыта тут як антытэза φύσει ў значэньні: ненатуральныя, выдуманыя, міталягічныя /багі/.

... θεολογεῖν... - даслоўна тэалёгаваць = займа́цца тэалёгіяю або пытаньнем адносна багоўці Бога.

Бач. 6. ...варроўскае трыхотоміі... трыхото́мія /τρίχα або τριχῇ на тры часткі ці ў тры столькі + τομή сячэньне/, распадзел на тры часткі. Діхото́мія /δίχα - на дзьве часткі + τέμνειν - секчы/; I. мэтанакіраваны распадзел на дзьве часткі; 2. у астраноміі - тая фаза Месяца, у якой відна палавіна ягонага дыску; 3. у лёгіцы - уклад клясы ў два ўзаемныя выняткавыя парадкі.

Бач. 9. ...або онтолягічнага фактару..., онтолёґія - выводзіцца з гр. ὄν, ὄντος -тое, што ёсьць: кажная рэч на сьвеце, быцьцё, жыцьцё, рэчаіснасьць, існасьць, твор.

Бач. IO. ... Der Glaube der Hellenen, вера гэльленаў.

Бач. I3. ...прооймія.../гр. προοιμία/ уступ, пачатак, прэлюдыюм, прэамбула. Προοίμιον - адкрыцьце /урачыстасьці/; уводзіны, прадстаўленьне /манарху/; у музыцы - прэлюдыюм, овэртура; у прамове - уступ; у праве - прэамбула.

προοιμιάζομαι, рабіць уступ, прэлюдыюм, прэамбулу

Бач. I5. ...адносна Эрыс... Эрыс; /з гр. - ἔρις, ιδος, ἡ- змаганьне; спрэчка, сварка, калатня; спаборніцтва; зайздрасьць. 2. Ἔρις, ἡ, Эрыс - багіня змаганьня, спрэчкі, калатні...

...σοφίζεσται... мн.л. - усьведамленьні, навукі, дактрыны.

Бач. I6. ...χάσκω..., пазяхаць, рашчыняць рот пры пазяханьні; разявіць рот пры зьдзіўленьні.

...Ґэнэзіс... Паводля некаторых дасьледчыкаў у гэбрайскім арыгінале кніга ня мае тытулу. Пераклады ў розных мовах розны носяць тытул. Вышэй паданы назоў наданы грэцкімі перакладчыкамі.

...тогу ва богу... гэбрайскія словы: бязхвормы, хаос, пустэча.

Бач. I8. ...у бэоцкіх Тэспіях... Θέσπια, і -πεία, ας, ἡ, - пераважна ў мн. л. - Тэспіі /у Тэспіях/, старажытнае места ў Бэотыі ля падножжа гары Гэлікон.

-

## ТВОРЫ СТАРАЖЫТНАЕ ГРЭЦКАЕ КЛЯСЫКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Плятон, дыялёгі:

Кніга першая: Абарона Сакратаса, Крытон, Файдон, 1967, /наклад вычарпаны/.
Кніга другая: Сымпозыён, Іён; далучаны Грэцка-беларускі слоўнік, 1970.
Кніга трэйцяя: Горгіяс, з дадаткам папраўленага і пашыранага Грэцка-беларускага слоўніка, 1973
Кніга чацьвертая: Протагорас, Гіппіяс вялікшы, 1973.
Кніга пятая: Пармэнідэс, Мэнон, 1976.
Кніга шостая: Політэя, займаецца тэмаю лепшага ўладжаньня гаспадарства. /Кніга неўзабаве мае выйсьці з друку/, каля 500 бб.

Марк Аўрэліюс:

Роздумы - філязафічныя разважаньні рымскага імпэратара, Марка Аўрэліюса; 1978, бб. 140.

Ян Пятроўскі:

Лепшыя думкі чалавека - чытаньні на кажны дзень году; першы том, 1977, бб. 210.
Лепшыя думкі чалавека, другі том, 1980, бб. 210
Старажытная грэцкая клясыка, 1979, бб. 28.

Вэрнэр Еґэр:

Тэалёгія Грэцкіх Думаньнікаў, у перакладзе Яна Пятроўскага, бб 24, 1980.

УНІВЭРСАЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
ў перакладзе на беларускую мову Яна Пятроўскага. Зьмест Дэклярацыі - гэта вобраз палітычнага і духовага ўладжаньня гаспадарстваў на нашай плянэце. Толькі сьведамасьць чалавека гварантуе яму месца сярод людзей.

АНАҐРАФЫ: №№ 1, 2-3

НЯМЕЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК, рыхтуецца да друку абыймом каля 1000 бачын /нашых друкаў/.

На жаданьне, пры пасільнай данацыі, выданьні высылаюцца бясплатна. Пішэце на адрыс:

Byelorussian Charitable Educational Fund
1716 N.E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601 U.S.A.